# АЎГЕН КАЛУБОВІЧ

Аўген Калубовіч нарадзіўся 5 сакавіка 1912 г. на Рагачоўшчыне ў сям'і служачага. Скончыў пачатковую школу ў мястэчку Ціхінічы, Рэчыцкую сямігодку і педагагічны тэхнікум (былая Бабчынская дзевяцігодка з педагагічным ухілам).

20 мая 1930 г. васемнаццацігадовага Аўгена Калубовіча арыштавалі энкавэдысты. Так і не паспеў ён атрымаць дыплом настаўніка. Як потым пісаў ва ўспамінах: «Трапіў пад навядзенне бальшавіцкага парадку». Аўгена, як і шмат каго з яго сяброў, абвінавацілі ў актыўным ўдзеле «в антисоветской националистической организации Альтруистов, которая ставила своей целью подготовку контрреволюционного восстания для свержения советской власти и отторжения Советской Белоруссии от СССР». Гэта значыць, што, у адрозненне ад шмат каго з іншых “нацдэмаў”, апынуўся Аўген за кратамі невыпадкова.



Калубовіч А.

4 кастрычніка «двойка» прачытала прысуд: «Тры гады пазбаўлення волі». Тут Аўгену Калубовічу пашанцавала. Але не пашанцавала ў іншым: большасць асуджаных адбывалі пакаранне ў высылцы, кіраўніка ж «альтруистов» загналі ў канцлагер (Усольскі лагпункт, што каля Пярмі).

17 красавіка 1933 г. А.Калубовіча «за примерную работу» на месяц раней тэрміну вызвалілі з канцлагера (пра што, як сведчыў Я.Кіпель, Аўген успамінаць не любіў), і ён вярнуўся на Бацькаўшчыну. Пры дамамозе старшыні ЦВК БССР Аляксандра Чарвякова (былога

паплечніка бацькавага сябра-камуніста) атрымаў другі шанц «выбіцца ў людзі». Паступіў у Мінскі Вышэйшы педінстытут (скончыў у 1939-м). Працаваў настаўнікам, потым інспектарам у Наркамасветы.

З успамінаў Ніны Калубовіч[1] (запісаны сынам Аўгенам Аўгенавічам):

*«В начале ноября* (1940 г. — ***Л. М***.) *я с Аугенам была на торжественном вечере в Доме литератора. Там были Янка Купала, Михась Лыньков, Алесь Кучар, близкие друзья Аугена Антон Белевич*[2] *и Рыгор Казак. Когда мы пришли, нас сразу позвала к себе Владислава Францевна, жена Янки Купалы. Она была в компании женщин и, когда мы подошли, попросила Аугена, чтобы он познакомил их со своей сестрой. И когда Ауген представил меня как свою жену, все стали нас поздравлять. Многие говорили, что мы очень похожи. Владислава Францевна шутила и всё спрашивала у Аугена, когда он включит ее произведения в школьную программу. Потом Ауген ушел к мужчинам. <…> После торжественной части выступали артисты, играла музыка, были танцы. Ауген разговаривал с Янкой Купалой и другими писателями, а я танцевала, мне было очень весело, и я была счастлива…”*[1]

У час Другой сусветнай вайны А.Калубовіч, выбіраючыся з акружэння, апынуўся на акупаванай тэрыторыі. У 1943 г. стаў сябрам БРД, БЦР, старшынёй БКЗ[2]. Праз год пераехаў у Нямеччыну. Настаўнічаў, выкладаў беларускую мову і літаратуру ў гімназіі імя Янкі Купалы.

З успамінаў Іны Кахаяоўскай[3]:

“Па гарадох і вёсках, дзе канцэнтраваліся ДП-лягеры, шнырылі савецкія Рэпатрыяцыйныя Місіі, шукалі сваіх непаслухмяных грамадзянаў. Ня трэба дзівіцца, што шмат хто, каб выратавацца ад рэпатрыяцыі, набываў сабе новае прозьвішча. Вось тады А.Калубовіч стаў А.Каханоўскім. У 1950 г. пад гэтым прозьвішчам эміграваў у Злучаныя Штаты Амэрыкі. Пад гэтым прозьвішчам шчасьліва жыў тут і … да выхаду на пенсію працаваў на адным з амерыканскіх заводаў, 22 гады прастаяў каля канвеера…

Пайшоў на пенсію ў ліпені 1972 г. Нялёгкія гады фізічнай працы на фабрыцы скончыліся. На развітанне сябры-рабочыя справілі яму “farewell party»: сфатаграфаваліся з ім, падаравалі прыгожы гадзіннік, зрабілі для ўсіх пачастунак, і, галоўнае, кожны

---

[1] Неман. 1994. № 1. С. 164.

[2] У кнізе Юрыя Туронка «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» (Мн., 1993)‚ змешчаны фотаздымак, на якім Вільгельм Кубэ і Аўген Калубовіч абменьваюцца поціскам рук.

пажадаў яму шмат шчасця і здароўя. Увага сяброў па працы глыбока кранула Аўгена. Дамоў ён прыехаў шчасліва ўзрушаны…

Цяпер ён зможа прысвяціць увесь свой час любімай літаратурнай і навуковай працы…"[3]

З гэтага часу (праз 27-гадовы перапынак) зноў пачынаюць выходзіць кнігі А.Калубовіча: «Мова ў гісторыі беларускага пісьменства»[4], «Айцы» БССР і іхны лёс»[5]. Пісьменнік складае і выдае (пры дапамозе Міколы Прускага[4]) зборнік «Янка Купала і Якуб Колас. 1882 — 1982. Вянок успамінаў пра іх»[6], у якім пра класікаў успамінаюць М.Шыла, М.Сяднёў, М.Шчаглоў і іншыя.

У 1986 г. з'явілася кніга А.Калубовіча «На крыжовай дарозе»[7] (паводле газеты «Наша ніва», адно з лепшых беларускіх выданняў XX ст.), якая стала апошняй прыжыццёвай працай пісьменніка. У кнізе ёсць шмат невядомых звестак пра пакутнікаў сталінскага рэжыму. Так, пра У.Хадыку адзначаецца, што «свае лагерныя вершы запісваў дробнымі літарамі на цыгарэтнай паперы і зашываў у каўнер бушлата, а Т.Лебяда завучваў свае на памяць. Першага ў 1940 годзе пры падрыве дынамітам скалы на станцыі Ерафей Паўлавіч каменная глыба ў вапняным кар'еры раздушыла насмерць. Разам з ім загінулі і яго лагерныя вершы»[8]. Асаблівую каштоўнасць мае імянны паказальнік кнігі (А.Калубовіч адным з першых пачаў дадаваць да кніг успамінаў імянныя паказальнікі).

У кнігу «Крокі гісторыі»[9] (выйшла пасля смерці аўтара) увайшлі лепшыя творы А.Калубовіча. Згадвае ў ёй пісьменнік і пра апошнія хвіліны жыцця акадэміка У.Ігнатоўскага: «У тое ранне (4 лют. 1931 г. — ***Л. М.***) ён чуўся страшэнна знерваваным і змучаным допытамі ГПУ… Прафесар пяшчотна пацалаваў жонку і пайшоў да сябе ў кабінет. Хутка раздаўся стрэл…»[10] У пятым томе БелСЭ (1972) чытаем: «У сваіх працах У.Ігнатоўскі не даваў належнай марксісцкай характарыстыкі эпохі, разглядаў гістарычныя падзеі з

---

[3] Беларускі свет. 1988. № 20. С.4.

[4] Калубовіч А. Мова ў гісторыі беларускага пісьменства. Мюнхен; Лондан, 1974—1975. Т. 1; Кліўленд, 1978. Т. 2.

[5] Калубовіч А. «Айцы» Беларусі і іхны лёс. Кліўленд. 1982.

[6] Калубовіч А. Янка Купала і Якуб Колас. 1882—1982. Вянок успамінаў пра іх. 1982. ЗША.

[7] Калубовіч А. На крыжовай дарозе. Творы з эміграцыі. Мн., 1994.

[8] Калубовіч А. На крыжовай дарозе. Творы з эміграцыі. Мн., 1994.

[9] Калубовіч А. Крокі гісторыі. Даследаванні, артыкулы, успаміны. Беласток; Вільня; Мн., 1993.

[10] Калубовіч А. Крокі гісторыі. Даследаванні, артыкулы, успаміны. Беласток; Вільня; Мн., 1993.

нацыяналістычных пазіцый»[11]. Таму, відаць, і давялі бальшавікі акадэміка да самагубства.

Памёр Аўген Калубовіч 25 мая 1987 г. у Кліўлендзе.

Стваральнік «Паэтычнай стылістыкі»[12] (выйшла ў Нямеччыне ў 1947 г.) на працягу больш чым дваццаці гадоў павінен быў працаваць фізічна, амаль нічога не пісаў. Але як толькі з'явіўся шанец, аддаў усяго сябе вялікай справе да канца.

---

[1] **КАЛУБОВІЧ** (у дзявоцтве — Ярмольчык) **Ніна Іванаўна** [н. 18.12.1920 (па пашпарту — 1921)], першая жонка А.Калубовіча. Вучылася ў Бабруйскім лесатэхнічным (?) тэхнікуме. Працавала бухгалтарам. З 1980-х г. на пенсіі. Жыве ў Мінску. У другой палове 1940-х — 1950-я гг. шмат разоў дапытвалася супрацоўнікамі МДБ.

[2] **БЯЛЕВІЧ Антон Пятровіч** [14(27).5.1914, в. Дуброўка Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Уздзенскі р-н Мінскай вобл. — 11.4.1978, Мінск], пісьменнік. Скончыў сямігодку, вучыўся ў Магілёўскім педагагічным тэхнікуме, Магілёўскім палітасветным інстытуце. Працаваў у газ. “Чырвоная Змена” (1937—39), “Звязда” (1939—45), “ЛіМ” (1945—47), “Савецкі Селянін” (1947—50). На яго вершы напісаны шэраг песень.

[3] **КАХАНОЎСКАЯ (**у дзявоцтве — Рытар) **Іна** [псеўд.: Аляксандра Саковіч; 14.12.1906, Адэса — 1997, Кліўлэнд, ЗША], пісьменьніца. Скончыла гістарычны ф-т БДУ. Падчас нямецкай акупацыі настаўнічала на Навагрудчыне. З лета 1944 на эміграцыі. Пабралася шлюбам з Аўгенам Калубовічам (на эміграцыі Кахановскі), займалася грамадзкай працай. У 1986 выйшаў збор твораў «У пошуках праўды» (1986).

Кр.: Юрэвіч Л. Літаратурны рух на эміграцыі. Мн., 2002.

[4] **ПРУСКІ Мікола** [н. у 19………, в. ………….. …………… пав. …………………………… губ., цяпер ………………………………. р-н …………………… вобл.], вядомы бел. эміграцыйны дзеяч, філолаг, сваяк Якуба Коласа. На пачатку 1950-х г. у Гранд-Рэпідзе, штат Мічыган, заснаваў Беларускае выдавецтва, якое, між іншым, выдавала час. для моладзі „Беларускі свет”, які публікаваў жыццяпісы бел. дзеячаў, мастацкія творы, успаміны. Дзякуючы энергіі і арганізацыйным здольнасцям П., яго выдавецтва сталася сучасным прадпрыемствам, з якога выходзілі шматлікія бел. публікацыі, у тым ліку выданні Беларускага інстытута навукі і мастацтва.

Кр.: ШВЕД В. Амерыканскія беларусы. Ніва № 11 (2392). 2002. 17 сак.

---

[11] БелСЭ. 1972. Т. 5. С. 44.

[12] Калубовіч А. Паэтычная стылістыка. Германія, 1947.